# ЗА АКРЭСЛЕНАСЦЬ ПАЗІЦЫІ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

«сапраўднай лірыкі» вершы, напоўненыя не столькі пачуццямі, колькі чуллівасцю, напісаныя не столькі словамі, колькі ўмоўнымі знакамі, арганізаваныя не столькі жывой інтанацыяй, колькі завучанай, знешняй «мелодыяй». І скажам адкрыта: чамусьці «празаічнай», пазбаўленай «задушэўнасці» нярэдка выглядае для такога «аматара» творчасць А. Куляшова альбо П. Панчанкі, бо яна патрабуе ў адказ душэўнага **намагання**, а не казыча нашых пачуццяў наборам «прыгожых», «цёплых» паэтызмаў, бо яна дае чалавечую думку ў яе неспакойным і складаным развіцці і руху, а не абмяжоўвае сябе «настроем», як гэта было ў паэзіі Маракова, Кляшторнага, Фаміна, Плаўніка, Тумілоўіча, ды і ў ранняй паэзіі таго ж Куляшова, а таксама Броўкі, Лужаніна і іншых майстроў, якія надзвычай плённа і кожны ў сваім стылі, у сваёй манеры працуюць у сучаснай беларускай літаратуры.

Адным словам, чалавеку, які бярэцца разглядаць паэзію 20-х гадоў, трэба быць гатовым для пэўных «расчараванняў», якія павінны быць вытлумачаны, а не ігнараваны. Я гавару пра гэта не толькі «тэарэтычна», а ў вялікай меры абапіраючыся на вопыт работы па ўкладанню другога тома Анталогіі беларускай паэзіі (20-я гады), калі трэба было адшукаць штосьці жывое, вартае ўвагі **сённяшняга** чытача і ў бяздумна-аблегчанай, «сіняй» (улюбёны Мараковам эпітэт) лірыцы, і ў творчасці тых паэтаў, якія адстойвалі актыўную грамадскую пазіцыю, адстойвалі шчыра, але недастаткова плённа, апранаючы **гатовыя** палітычныя лозунгі ў грымучае адзенне рытмаў і алітэрацый.

За адным разам адзначу, што і нямала радасці прынесла работа па ўкладанню тома. Радасці не толькі з усведамлення таго, што наша паэзія заўсёды імкнулася ісці ў нагу з жыццём, што яна стварыла своеасаблівы летапіс часу, а і радасці чыста **чытацкай** — ад нечаканых адкрыццяў. Так, напрыклад, асабіста для мяне ўпершыню прагучаў надзвычай чысты, мужны і стрыманы голас такога таленавітага паэта, як Аркадзь Моркаўка. Шмат добрага можна было б сказаць пра творы Алеся Дудара 30-х гадоў («Палескія ночы», «На станцыі»). Мала хто заўважыў, а тым больш запомніў, выдатны (не пабаюся сказаць) верш Алеся Вечара «Маўчыць граніца» (1935 г.), напісаны са спелым майстэрствам.

Аднак не буду павялічваць «спісу ўдач» — яны не проста «ўдачы», а жывая сувязь (разам з лепшымі творамі Чарота, Дубоўкі, Александровіча і іншых) паміж дзесяцігоддзямі, жывыя ступені росту нашай паэзіі. І сур'ёзна памыляюцца тыя крытыкі і даследчыкі, якія адмаўляюцца бачыць сам працэс гэтага росту, разглядаюць літаратуру 20-х гадоў, так сказаць, самацэнна і кожную спробу **аналізаваць** гэту літаратуру ацэньваюць не больш і не менш як «замах» з недвухсэнсоўна благім намерам.

Менавіта такую ролю абаронцы (ад каго?) беларускай літаратуры 20-х гадоў вырашыў чамусьці ўзяць на сябе Якуб Усікаў, аўтар вышэй памянёнага артыкула «На подступах да вырашэння праблемы».

Адзначу з самага пачатку недапушчальнасць некаторых прыёмаў, з дапамогай якіх Я. Усікаў крытыкуе працы сваіх таварышаў. Нельга ж на самай справе пісаць так, як піша т. Усікаў пра кнігу Н. Перкіна «Шляхі развіцця беларускай савецкай літаратуры 20—30-х гг.»: «Бадай, уся кніга Н. Перкіна, на маю думку, прасякнута нейкім недаверам, скепсісам, а то і нігілістычным душком у дачыненні да беларускай паэзіі і яе прадстаўнікоў».

Я. Усікаў абавязаны быў заўважыць, што ад яго абвінавачвання ў адрас Н. Перкіна сапраўды патыхае «душком» найбольш грубых і безапеляцыйных выступленняў недалёкага мінулага, калі са здзіўляючай лёгкасцю і без належнай аргументацыі рабіліся самыя сур'ёзныя закіды. Але пакінем на сумленні Я. Усікава тон і прыёмы яго палемікі, паспрабуем разабрацца ў логіцы яго разважанняў.

Скепсісам і нігілізмам, недазволеным прыніжэннем і абняслаўленнем літаратуры 20-х гг. выглядае ў вачах Я. Усікава кожная спроба прачытаць гэту літаратуру з сённяшніх пазіцый і вызначаць яе сапраўдную вартасць у працэсе развіцця ад мінулага да сучаснага.

«Першы значны раман у гісторыі беларускай літаратуры — «Сокі цаліны» Цішкі Гартнага, па сутнасці, разносіцца А. Адамовічам», — сцвярджае Я. Усікаў і сцвярджае абсалютна беспадстаўна. Ніякага «разносу» рамана «Сокі цаліны» А. Адамовіч не ўчыніў, а толькі кваліфікавана, з добрым тактам, улічваючы ўсе «за» і «супраць», прааналізаваў раман, паказаўшы яго сапраўднае месца ў беларускай прозе свайго часу і адначасова падкрэсліўшы яго буйныя недахопы, асабліва бачныя з вышынь нашай сённяшняй літаратурнай сталасці (дэкларацыйнасць у вырашэнні канфліктаў, няспеласць кампазіцыі, наяўнасць «нейтральнага», мастацка не засвоенага матэрыялу, прыземлены бытавізм і г. д.). Можа, Я. Усікаў, мяркуе, быццам усе гэтыя хібы і не ўласцівы раману Ц. Гартнага, што яны прыдуманы А. Адамовічам? Тады яму і трэба было даць **сваю**, усебакова абгрунтаваную ацэнку рамана, а не станавіцца ў позу адзінага, сярод безнадзейна змрочных «скептыкаў» і «нігілістаў», ідэальнага «добразычліўца», які больш за ўсіх і лепш за ўсіх рупіцца за беларускую літаратуру.

Вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што «добразычлівасць» гэта рытарычная, вонкавая, бо грунтуецца яна не на сапраўдным і зусім абавязковым для крытыка ўмельстве пранікнуць у эстэтычную «прыроду рэчаў», а толькі на суб'ектыўным жаданні паказацца вось такім «добразычлівым».

Калі б Я. Усікаў валодаў гэтым умельствам пранікнуць у сутнасць эстэтычных з'яў альбо калі б ён так старанна не ўтойваў гэту здольнасць ад сваіх чытачоў, ён бы, напэўна, не рабіў і такога закіду ў адрас цэлай групы літаратуразнаўцаў:

«Чамусьці ўсе — Н. Перкін, Ю. Пшыркоў і ў асобных месцах А. Адамовіч — нападаюць на пісьменнікаў за іх схільнасць да так званай рытмічнай альбо паэтычнай прозы... Янка Брыль, скажам, даволі паспяхова карыстаецца паэтычным стылем, і ад гэтага яго творы не толькі не трацяць, а, наадварот, выйграюць у мастацкіх адносінах, прыносяць сапраўдную асалоду чытачу». І далей: «Мы за разнастайнасць стыляў, супраць іх нівеліроўкі, уніфікацыі ва ўгоду асабістым густам асобных крытыкаў».

Тут усё спрэчна, усё нацяжка і ўсё здзіўляе.

Па першае, тэрміналогія. Я. Усікаў не ведае ў дачыненні да сваіх апанентаў іншай мовы, як «нападаюць на пісьменнікаў», «прыніжаюць», «абвінавачваюць», а пра Ю. Пшыркова сказана нават, што ён «Сына» Р. Мурашкі «кідае з вышыні ў лужыну». Няўжо няўцям Я. Усікаву, што можна **аналізаваць**, не «нападаючы», **разбірацца ў творчых супярэчнасцях** таго ці іншага пісьменніка — нават Купалы і Коласа, што асабліва чамусьці абурае крытыка,—не абвінавачваючы іх, не абавязкова адшукваючы **палітычныя** памылкі?

Здзіўляе імкненне Я. Усікава абараніць Я. Брыля ад... А. Адамовіча, які раней за многіх нашых крытыкаў і з большай пераканальнасцю якраз і раскрыў значэнне, непаўторнасць і сілу Я. Брыля як пісьменніка.

Нарэшце, прынцыповыя пярэчанні выклікае само па сабе імкненне Я. Усікава паставіць знак роўнасці паміж так званай паэтычнасцю, скажам, маладога М. Зарэцкага, якая ажыццяўлялася пры дапамозе добра апрабіраваных і даволі бедных на жыццёвы змест рытміка-сінтаксічных фігур і прыёмаў, і паэтычнасцю Янкі Брыля, што валодае ўсімі фарбамі, колерамі і пахамі жывой рэчаіснасці. У адным выпадку мы бачылі паэтычнасць фармальную, вонкавую, і яе ўпарта перамагалі Зарэцкі, Лынькоў, Каваль, а ў другім выпадку (у Янкі Брыля) мы бачым паэтычнасць унутраную, псіхалагічную. Няўжо ж гэтага не разумее Якуб Усікаў?

Ён выступае за «разнастайнасць стыляў, супраць іх нівеліроўкі». Мы таксама. Але з той толькі розніцай, што не збіраемся выдаваць слабасці стылю, яго няспеласць за характэрную адзнаку стылю, за прыкмету пісьменніцкай індывідуальнасці. Істотная, як бачыце, розніца...

Пытанне аб тым, як мы будзем ацэньваць літаратуру 20—30-х гадоў — пытанне не акадэмічнае, яно мае і сённяшні **практычны** сэнс, бо звязана з узроўнем нашых **сучасных** ідэйна-мастацкіх крытэрыяў. Крытык, які лічыць, быццам кожная літаратурная з'ява 20-х гадоў заслугоўвае безумоўнага, абсалютнага, так сказаць, прынятця з усімі яе недахопамі **творчага** парадку, крытык, які не ўмее альбо не хоча ўбачыць розніцы паміж «Сокамі цаліны» і, скажам, новым раманам Івана Мележа, не прынясе карысці нашай літаратуры якраз праз гэтую сваю непатрабавальнасць, усяяднасць, праз адсутнасць рэзка акрэсленых ідэйна-эстэтычных пазіцый.

Праблема літаратуры 20—30-х гадоў — праблема жывая, творчая, і над вырашэннем яе трэба працаваць удумліва, кваліфікавана, з удзячнасцю, з любоўю да тых, хто пачынаў гісторыю беларускай савецкай літаратуры, але з любоўю «відушчай», прынцыповай, такой, што спрыяе далейшаму росту літаратуры сучаснай і літаратуры заўтрашняга, камуністычнага дня.

**Р. БЯРОЗКІН.**

## У АБЛАСНОЙ БІБЛІЯТЭЦЫ

Днямі ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна адбылася сустрэча маскоўскага пісьменніка Л. Лагіна з чытачамі бібліятэкі.

Л. Лагін — аўтар вядомых кніг «Стары Хатабыч», «Востраў расчаравання», «Патэнт АВ» і іншых — падзяліўся з прысутнымі сваімі ўражаннямі аб шматлікіх зарубежных паездках, аб сваёй літаратурнай дзейнасці і рабоце над кнігамі. Затым ён прачытаў сваю новую сатырычную казку «Інстытут на балоце».

**Л. СЯНЮТА.**

В. Рамейка. Завод жалезабетонных вырабаў.

З выстаўкі маладых мастакоў, прысвечанай XXII з'езду ЛКСМ Беларусі.



Пад купалам цырка — нумар без сеткі...

Фотаэцюд **У. Марцыёнкі.**

## З кінакамерай па рэспубліцы

На экранах гарадскіх кінатэатраў і сельскіх клубаў пачаў дэманстравацца кіначасопіс «Савецкая Беларусь» № 37 (1961 г.), першы сюжэт якога прысвечаны рабоце 6-й сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР пятага склікання.

У другім сюжэце кіначасопіса расказана аб жыцці і працы дэлегата XXII з'езда КПСС, лепшай ткачыхі Гродзенскага тонкасуконнага камбіната Таццяны Сцяпанаўны Семчук.

Лес — багацце нашай Радзімы, яе хараство. З кожным годам павялічваюцца плошчы лесанасаджэнняў, і каб аблегчыць работы па пасадцы ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце лясной гаспадаркі, створана новая машына. Аўтар яе — навуковы супрацоўнік інстытута Давідзенка. Аб гэтым гледачы даведаюцца, прагледзеўшы трэці сюжэт кіначасопіса. Далей расказваецца аб комплекснай механізацыі на жывёлагадоўчай ферме саўгаса «Бярозкі» Гомельскага раёна, аб выстаўцы ў Мінску лепшых узораў новых вырабаў, што ўпрыгожваюць наш быт і жыллё.

У заключэнне кіначасопіса гледачы ўбачаць выступленне Гродзенскага самадзейнага ансамбля, якому за поспехі ў развіцці беларускага харавога і танцавальнага мастацтва прысвоена званне народнага.

НАТАТКІ НАРОДНАГА ЗАСЯДАЦЕЛЯ

# СПРАВА аб скасаванні шлюбу

— НУ, СЕННЯ ж і дзянёк! — вымавіў член Мінскага абласнога суда Віталій Іванавіч Папельскі і паклаў на стол яшчэ адну папку са справай аб скасаванні шлюбу.

І вось яны перад намі—маладыя, якіх мы павінны развесці. Развесці... А што іх звяло?

Афіцэр Уладзімір К., прыехаўшы ў Мінск на адпачынак, пазнаёміўся на танцах у клубе фабрыкі імя Калініна з дзяўчынай. Прывабная з твару, апранута па апошняй модзе. Першы ж танец, і Уладзімір прапануе новай знаёмай руку і сэрца... Назаўтра яны прыйшлі ў ЗАГС.

Назаўтра ў ЗАГС, а праз два тыдні—у суд. Уладзімір К. падаў заяву з просьбай скасаваць шлюб. Прывабная і модная дзяўчына, як выявілася, была зусім не тым чалавекам, з якім можна было стварыць сям'ю і наладзіць сумеснае жыццё.

— Як вы маглі так неразважліва і неабдумана аднесціся да вырашэння важнейшага жыццёвага пытання?—пытае Уладзіміра суддзя.

Уладзімір, апусціўшы галаву, маўчыць...

Суд вынес рашэнне аб скасаванні шлюбу.

Гэтая справа была дзесятай, разгледжанай у той дзень на судовым пасяджэнні. Прайшлі перад судом лёгкадумнасць і неабдуманасць, подласць і фальшывая самалюбнасць, трагічная памылка і звычайнае ашуканства. І зусім зразумела, што пасля заканчэння судовага пасяджэння ні суддзі, ні засядацелям, ні прысутным у зале не хацелася разыходзіцца. Зноў—у каторы раз!—пачалася гаворка аб ролі закона ва ўмацаванні савецкай сям'і.

УЖО НЕКАЛЬКІ гадоў на старонках нашага друку, на розных нарадах спецыялістаў і грамадскасці вядуцца размовы аб неабходнасці перагледзець дзеючае заканадаўства аб шлюбе і сям'і. Пакуль што гэтыя пытанні разглядаюцца згодна з палажэннямі Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 8 ліпеня 1944 года. Юрыдычная практыка, заснаваная на гэтым Указе, адыграла значную ролю ў барацьбе з няправільнымі адносінамі да шлюбу. Але, з другога боку, даўно ўжо наспела неабходнасць некаторыя пункты гэтага Указа змяніць.

Камісія заканадаўчых меркаванняў Вярхоўнага Савета СССР прыняла рашэнне аб падрыхтоўцы праекта новага закону аб шлюбе і сям'і. Трэба спадзявацца, што шматлікія прапановы грамадскасці будуць адлюстраваны ў ім.

Вось некаторыя думкі, якія ўзніклі ў мяне, ды і не толькі ў мяне, у час разгляду судовых спраў, так сказаць, шлюбна-сямейных.

НАСПЕЎ ЧАС змяніць парадак рэгістрацыі шлюбаў. Большасць разводаў выклікана тым, што маладыя людзі, накшталт Уладзіміра К., ведаюць адзін аднаго вельмі нядоўга. Думаецца, што трэба ўвесці, калі можна так сказаць, «савецкія заручыны».

У даўнія часы гэта выглядала так: сваякі жаніха і нявесты ўрачыста паведамлялі сябрам і знаёмым, што іх дзеці заручаны і вяселле прызначана на пэўны дзень.

Чаму не аднавіць гэты звычай? Чаму не абвяшчаць загадзя, што маладыя людзі—жаніх і нявеста, а юрыдычнай падставай няхай будзе заява, пададзеная ў ЗАГС.

Рэгістраваць жа шлюб варта не раней, як месяцы праз тры пасля падачы заявы. Цяпер органы ЗАГС'а маюць права рэгістраваць шлюб праз дзесяць дзён. І калі спытаць работнікаў ЗАГС'а, яны пацвердзяць, што са ста пар, якія падалі заявы, рэгіструюцца прыходзяць восемдзесят. Значыць, калі павялічыць тэрмін паміж падачай заявы і рэгістрацыяй, то і лёгкадумнасці ў вырашэнні гэтага важнага пытання будзе менш.

Рэгістрацыю шлюбу трэба праводзіць ва ўрачыстай абстаноўцы. Мэбля, памяшканне, настрой рэгістратара—усё павінна адпавядаць урачыстасці моманту. Па прыкладу Ленінграда ў многіх гарадах будуюцца спецыяльныя палацы маладажонаў. У Мінску для ўрачыстай рэгістрацыі шлюбу аддаецца па суботах зала ў Палацы прафсаюзаў. Але ў кожным горадзе, у кожнай вёсцы гэтага, безумоўна, не зробіш. Дастаткова сказаць, што толькі ў мінулым годзе ўзялі шлюб пяць мільёнаў мужчын і жанчын. А нашы ЗАГС'ы вельмі часта знаходзяцца ў памяшканнях, надзвычай не прыстасаваных. Доўгая, непрыемная чарга перад кабінетам загадчыка ЗАГС'а. Працэдура запісу, разлік на месцы, стандартнае, абыякавае віншаванне—усё гэта застаецца зусім не святочным успамінам.

А хіба нельга ўсе неабходныя фармальнасці зрабіць да рэгістрацыі шлюбу? Хіба не лепей было б, каб маладых віншавалі не толькі штатныя рэгістратары ЗАГС'а, а і прадстаўнікі грамадскасці, дэпутаты мясцовых Саветаў. Не лішне было б таксама, калі б маладыя давалі прысягу ў прысутнасці сваіх сяброў і таварышаў, а ў мясцовым друку паведамлялася аб дні рэгістрацыі шлюбу.

Пакуль што ў нас паведамляецца ў газетах толькі аб скасаванні шлюбу. Такое паведамленне відаць, павінна служыць пэўным тормазам пры разводзе. Атрымліваецца ж наадварот. Аб'яву прачытаюць усе знаёмыя, увесь горад, і тады ўжо прымірэнне ў сям'і—справа яшчэ больш складаная.

ШМАТ РОЗДУМУ выклікае пытанне, ці правільна прызнаваць юрыдычную сілу толькі за тым шлюбам, які аформлены ў органах ЗАГС'а ці сельскага Савета. Пакуль што толькі пры такім шлюбе члены сям'і маюць права на аліменты, пенсію і частку сумесна нажытай маёмасці.

Жыццё падказвае, што такі парадак не заўсёды сябе апраўдвае. Успамінаецца, напрыклад, наступная гісторыя. Зінаіда Б. праз тры месяцы пасля рэгістрацыі шлюбу разышлася з Васілём З. Васіль паехаў некуды на Поўнач, а Зінаіда праз некаторы час сустрэла Паўла А. Яны пакахалі адзін аднаго, вырашылі пажаніцца. Але спачатку Зінаіда павінна была скасаваць ранейшы шлюб. Толькі дзе Васіль? Пачаліся пошукі. Станоўчых вынікаў яны не далі — адусюль прыходзіў адказ, што Васіль З. тут не жыве.

Зінаіда і Павел вырашылі жыць без рэгістрацыі. Неўзабаве ў іх нарадзіўся сын Віця, аднак запісаць хлопчыка давялося на прозвішча Зінаіды. Ішоў час, Віцю споўнілася сем гадоў. І вось у сям'і здарылася няшчасце: Павел цяжка захварэў. Перад аперацыяй ён напісаў з бальніцы пісьмо, што Віця яго сын, але толькі па фармальных прычынах, якія ад бацькі не залежаць, не носіць яго прозвішча.

На аперацыйным стале Павел памёр. Тым не менш, Зінаідзе вельмі доўга давялося хадзіць з установы ва ўстанову, каб афарміць на сына пенсію. Усюды чула яна адзін адказ: «Дайце пасведчанне аб шлюбе». Толькі пасля настойлівага ўмяшання грамадскасці маленькаму Віцю была вызначана пенсія.

Відаць, каб папярэдзіць падобныя гісторыі, больш правільным будзе ўстанавіць парадак, паводле якога поруч са шлюбам, аформленым у органах ЗАГС'а ці сельскага Савета, мае юрыдычную сілу і фактычны шлюб, калі муж і жонка доўга жывуць разам, вядуць агульную гаспадарку, выхоўваюць дзяцей, хоць і не зарэгістраваны ў дзяржаўных органах. Такі парадак будзе ахоўваць правы і інтарэсы дзяцей, ён выключае магчымасць злоўжыванняў, выпадковасцей.

Многа гаворыцца і справядліва аб метрыках дзяцей, народжаных без рэгістрацыі шлюбу. Як вядома, цяпер маці-адзіночка запісвае дзіця на сваё прозвішча. А графа—«бацька» пракрэсліваецца. Ці трэба казаць, што ў далейшым жыцці гэта прынясе ні ў чым не вінаватаму дзіцяці шмат крыўды і непрыемнасцей. Думаецца, што правільней даць жанчынам права запісваць дзіця ў ЗАГС'е на прозвішча мужчыны—бацькі дзіцяці.

НАСПЕЎ ТАКСАМА час перагледзець існуючы парадак разводу. Разглядам спраў аб скасаванні шлюбу займаюцца цяпер дзве інстанцыі—народны і абласны суды. Задача народнага суда—памірыць мужа і жонку. Працэнт прымірэння вельмі невялікі. І, відаць, таму адносіны да народнага суда несур'ёзныя — маўляў, тут трэба менш гаварыць, бо ўсё роўна нічога не рашаецца.

Канчаткова ж пытанне аб скасаванні шлюбу, аб падзеле маёмасці, аліментах вырашаецца ў абласным судзе. У адзін абласны суд збіраюцца ўсе шлюбаразводныя справы вобласці. Як мы ўжо гаварылі, на адным судовым пасяджэнні даводзіцца разглядаць па 10—15 такіх спраў. Зразумела, такая нагрузка перашкаджае суду дасканала высветліць, на чыім баку праўда. У аснову рашэння кладуцца знешнія фактары. З-за гэтага нярэдка суд можа прыняць няправільнае рашэнне.

Успамінаецца выпадак з уласнай практыкі. Інжынер Васіль П. прасіў скасаваць шлюб з педагогам Ліліяй А. Справа разглядалася папярэдне ў народным судзе і прыйшла да нас у абласны. Падставай для заявы ў суд была «сямейная нявернасць». Усё здавалася ясным. Аднак, на шчасце, у складзе суда быў народны засядацель, які добра ведаў гэтую сям'ю. Ён папрасіў адкласці разгляд справы. І вось што выявілася.

Васіль П. адпачываў на курорце. Яму пачалі прыходзіць ананімныя пісьмы, нібы жонка яго сустракаецца з іншым мужчынам. Не дабыўшы да канца тэрміну адпачынку, Васіль вярнуўся ў Мінск і, як толькі ўвайшоў у кватэру, пачаў абвінавачваць жонку ў здрадзе. Пакрыўджаная падазрэннямі, жанчына пайшла з дому. Некалькі дзён не вярталася, пасялілася ў сваёй маці. А на рабоце Васілю асабліва спачувала тэхнік Ніна В. Яна запрашала яго ў госці, разам з маці сваёй угаворвала «не траціць здароўя і не сумаваць па жанчыне, якая таго нявартая».

Пра ўсё гэта народны засядацель даведаўся ў канструктарскім бюро, дзе працаваў Васіль П. Засядацель папрасіў у яго ананімныя пісьмы. Неўзабаве ад экспертаў-крыміналістаў прыйшло заключэнне, што аўтарам гэтых пісем з'яўляецца «чулая» Ніна В.

Ці варта дадаваць, што муж і жонка былі запрошаны ў суд і іх памірылі.

Многія работнікі судоў справядліва лічаць, што справа аб скасаванні шлюбу павінна разглядацца толькі ў адной інстанцыі—народным судзе, але глыбока і ўсебакова. У сучасны момант народны засядацель запрашаецца ў суд у дзень пасяджэння, са справай знаёміцца па ходу яе разгляду. А чаму б не ствараць камісій народных засядацеляў, якія яшчэ да разгляду справы знаёміліся б з яе абставінамі—наведвалі заяўнікаў дома, на рабоце. Больш цесную сувязь суды і камісіі народных засядацеляў павінны былі б падтрымліваць і з сацыяльна-прававымі кабінетамі аховы мацярынства і дзяцінства, якія дзейнічаюць пры дзіцячых лячэбных установах і маюць немалы вопыт работы па ўмацаванню сем'яў. Колькі людзей, напрыклад, з удзячнасцю ўспамінаюць загадчыка сацыяльна-прававога кабінета Рэспубліканскага інстытута аховы мацярынства і дзяцінства Аляксандру Уладзіміраўну Дулевіч.

ПРА УСЕ ГЭТЫЯ пытанні і гаварылі мы ў той вечар пасля разгляду дзесятка спраў аб скасаванні шлюбу. Многа прыводзілася прыкладаў, выказвалася думак. Усе ўдзельнікі размовы аднадушна лічылі, што новае заканадаўства павінна адыграць важную ролю ва ўмацаванні савецкай сям'і, прынцыпы якой запісаны ў маральным кодэксе будаўніка камунізма.

Заканадаўства гэтае будзе прынята пасля шырокага ўсенароднага абмеркавання.

**В. ГЛОЗМАН,**
**старшы выкладчык Беларускага політэхнічнага інстытута, народны засядацель Мінскага абласнога суда.**

## У суботу ў Гомельскім Палацы чыгуначнікаў

У гэты вечар вялікая тэатральная зала Гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў імя Ул. І. Леніна была перапоўнена. Нямала людзей прыйшло сюды на вечар, прысвечаны 25-годдзю танцавальнага калектыву Народнага ансамбля песні і танца Палаца культуры і 50-годдзя з дня нараджэння мастацкага кіраўніка ансамбля, народнага артыста Беларускай ССР, Аляксандра Аляксеевіча Рыбальчанкі.

На трыбуне намеснік старшыні праўлення Гомельскага Палаца культуры чыгуначнікаў імя Ул. І. Леніна М. Конаш. Ён расказвае прысутным аб творчым шляху народнага ансамбля і яго кіраўніка.

Сакратар Гомельскага абкома партыі А. Корнеў уручае А. Рыбальчанку Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Граматы Гомельскага аблвыканкома атрымліваюць найбольш здольныя танцоры ансамбля. Гэта—Ала Андрушэчка, Мікола Горленка, Валерый Турык, Мікола Гатальскі, Яўген Карленка, Валянцін Варонічаў і іншыя.

Ад імя Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў юбіляраў віншуе І. Сцяпанаў, ад імя Міністэрства культуры БССР, Саюза кампазітараў і тэатральнай грамадскасці Беларусі да А. Рыбальчанкі і яго калектыву з цёплымі словамі прывітання звярнуўся дырэктар Беларускага тэатра юнага гледача Ул. Стэльмах.

Юбіляра горача віншавалі ўдзельнікі многіх самадзейных калектываў Гомеля і вобласці, артысты Гомельскага абласнога рускага драматычнага тэатра, прадстаўнікі партыйных, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый горада і вобласці.

Урачысты вечар закончыўся вялікім святочным канцэртам Гомельскага народнага ансамбля песні і танца.

**М. ВАСІЛЕВІЦКІ.**

ЗША збіраюць 22 студзеня нараду краін амерыканскага кантыненту. Мэта нарады — уцягненне гэтых краін у барацьбу супраць рэвалюцыйнай Кубы.

(З газет).

КУБА

Так, відаць, уяўляецца дзядзю Сэму гэтая нарада. Мал. М. ЖЫТНІЦКАГА.

Заўвагі на палях

# «БУРДА Ў СУПНІКУ»

Так павялося ўжо ў народзе, што пад Новы год «ходзіць» ад вёскі да вёскі, ад хаты да хаты «дзед Мароз»—зычыць людзям шчасця, здароўя, поспехаў, віншуе ўсіх з надыходзячым годам, гаворыць ім самыя лепшыя, самыя прыемныя словы. «Пабываў» дзед Мароз пад Новы год і на Талачыншчыне, аб чым паведаміла рэдакцыя талачынскай раённай газеты «Ленінец» у першым у гэтым годзе нумары. Але чыталі талачынцы віншаванні дзеда Мароза ды не радаваліся, а... абураліся. Дзіўны дзед Мароз завітаў да іх у госці. Ашаламіў ён чытачоў адразу ж. Мяркуйце самі:

Вы ўсе, як і я,
Новы год сустракалі —
Весяліліся, пелі,
Пілі, танцавалі,
Паціху ад жонак
Дзяўчат абдымалі (!).

Далей у лес — болей дроў. Звяртаючыся да талачынцаў, дзед Мароз даверліва хваліўся:

Я абшарыў Зямлю.
Пад нябеснымі зоркамі
Я з кіёчкам пратупаў
Мо тысячы вёрст.
Размаўляў я з людзьмі,
З дамавымі, вавёркамі,
З шчабятухай-сарокай,
З палямі, прыгоркамі...

Рассакрэтнічаўся стары і не стрымаўся, разануў:

Маладзіцу ж абняць
Не дазволіў узрост. (!)

Многа абяцаў талачынцам дзед Мароз:

Я ж раскажу вам
Аб Талачыншчыне,
Не закранаючы
Іншых мест.

Але нават і аб Талачыншчыне стары амаль нічога не сказаў. Пранёсся ён метэорам па раёну і здолеў заглянуць толькі ў адзін калгас, у швейную майстэрню ды ў «харчэўню». Ды і то толькі таму, што дужа захацеў есці:

Ды і есці хачу —
Аж у вуху звініць (!).

Уласна, і гэта маглі дараваць дзеду Марозу талачынцы. Разумелі старога, што многа ў яго работы пад Новы год, усюды паспець трэба, кожнага павіншаваць. Не маглі ж дараваць другога, а менавіта — таго, што зблытаў дзед паэзію з безгустоўнасцю і частаваў іх «бурдой», накшталт:

Каштую... Крычаць,
Безумоўна, прычына
Была ў хлапца,
Бо... бурда у тым супніку.
Катлеты на смак —
Не вельмі таксама,
Гуляшом павары тут
Не могуць хваліцца.
Што ж датычыць гарэлкі
Дык тут, скажам прама,
З нядаўніх часоў
Ніяк нельга напіцца.

Каментарыі тут, безумоўна, не патрэбны.

Гутарку дзеда Мароза «запісаў» нехта І. Арсеньеў. Калі наш чытач захоча даведацца падрабязна пра аўтара гэтай «бурды ў супніку», можам параіць папрасіць даведку ў рэдактара «Ленінца» П. Валчка.

**Г. СІДАРАЎ,**
**П. МІКАЛАЕЎ.**

Галоўны рэдактар Н. Е. ПАШКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: З. І. Азгур, А. І. БУТАКОЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, В. Ул. ІВАШЫН, А. Н. МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), П. Ф. ПРЫХОДЗЬКА, Р. К. САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), М. Г. ТКАЧОЎ, І. З. ШАРАХОЎСКІ, І. Б. ШАЦІЛА, Р. Р. ШЫРМА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва— 3-24-62, аддзела культуры—3-20-54, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу

АТ 00031

Друкарня выдавецтва «Звязда».